Выходзіць з 20 снежня 1945 года



газета
# НАСТАЎНІЦКАЯ

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 73 (5404)
Аўторак,
18 чэрвеня
2002 года

## Слово об Учителе

Май - Июнь... Одни из чудесных месяцев года. Встреча весны с началом лета, буйство красок - все это напоило воздух чем-то радостным и неповторимым, пробуждая давно заснувшие чувства легкости и свободы. Но для меня эта пора расставания с детством. Одиннадцатый класс... Отзвенел последний звонок, пройдут экзамены, прогремит выпускной бал, и судьба предложит нам новые дороги. Что поделать? Улетают голуби рано или поздно из гнезда...

Уроки... Сколько их прошло, пронеслось - промчалось за школьные годы... В своей памяти я все больше возвращаюсь к урокам русского языка и литературы, к встречам с моим любимым преподавателем - Любовью Яковлевной Дуденковой. Это человек, о высоком профессионализме которого можно говорить бесконечно.

Любовь Яковлевна прекрасно знает не только биографии и творчество писателей, но и целые эпохи, в которых они жили. Она всегда говорит: чтобы правильно анализировать произведения, надо иметь представление о времени, в котором они писались. Такая интеграция литературы и истории, на мой взгляд, очень продуктивна. Она приучает мыслить в соответствии со временем. Великолепно зная всю мировую литературу, Любовь Яковлевна всегда указывала нам на детали, которые мы не заметили, выделяя самое главное, самое важное. Ее объяснения были всегда доступны, понятны и легко запоминались. Конечно, я не могу сказать, что мои знания в области литературы идеальны, однако благодаря усилиям Любови Яковлевны я чувствую себя достаточно уверенно в разговорах на литературную тему. Эта поразительная способность моего преподавателя буквально вкладывать знания в головы учеников, плюс индивидуальное желание каждого - и можно быть уверенным в своей литературной осведомленности.

Еще в пятом классе Любовь Яковлевна предложила нам проинсценировать русскую народную сказку. Сначала мы сделали это в классе, потом на сцене в актовом зале. Не могу на словах передать ту атмосферу, которая царила в тот момент. Все находились в каком-то радостном возбуждении, Любовь Яковлевна несколько раз репетировала с нами, указывала на ошибки, давала советы и очень волновалась, когда мы выступали. Все-таки в первый раз! Наша учительница както сразу угадала роль каждого из нас. Уже тогда, за пару месяцев преподавания, она профессионально оценила наши возможности и заметила индивидуальность каждого, нашла свой подход. Такие мероприятия нам очень нравились. Мы с удовольствием учили тексты и умело играли свои роли. Затем последовали более серьезные постановки: "Снегурочка" Островского, "Русские женщины" Некрасова. Память об этих маленьких праздниках будет жить в нас очень долго, как частичка творческой души Любови Яковлевны.

**Любови Яковлевне и всем моим учителям я хочу посвятить эти стихи**

*Когда последний
прозвенит звонок,
И школьный бал
прощальный отгремит,
Нам жизнь откроет
тысячи дорог,
Но сердце расставаньем
заболит.
Ведь десять лет
немалый все же срок,
И не одна исписана тетрадь,
Но тех, кто нас учил,
кто нам помог,
Мы не имеем права забывать.
Учителя! Ведь до сих пор,
наверное,
Мы этих слов
не знали глубины.
Не знали и того, что нам же,
верно,
Все лучшие черты
от Вас даны.
А жизнь не может
легкой быть всегда...
Когда решать придется:
либо - либо,
Мы вспомним Вас
и сделаем тогда,
Не сомневаясь,
самый верный выбор.
Немало сил Вы вкладывали
в нас,
Порой мы не ценили
этот труд,
Но твердо знайте:
Вас благодарят
За место в жизни,
счастье и уют.
Учителя, родные!
Верьте, скоро
Вы обязательно
услышите о нас,
Ведь несмотря
на наши ссоры, споры,
Мы в жизнь уносим
половинку Вас.*

Неповторимыми и незабываемыми для нас есть и будут уроки поэзии. Мы изучали лирику Ахматовой, Мандельштама, Маяковского. Лично для меня эти уроки стали своеобразным окошком в новый мир. Благодаря Любови Яковлевне, ее труду я научилась любить стихи, ценить их, видеть между строк. И я уверена, что не одну меня из ее учеников стихи по-настоящему спасают в трудную минуту, поддерживают, дают совет. Ведь лирика и поправит, и поставит ногу на порог, и подняться в жизнь заставит лестничками строк.

С еще большей благодарностью будем вспоминать другие уроки Любови Яковлевны - уроки "человеческие". Почему такое странное определение? Но именно так и есть. Очень часто на уроках мы проводили невидимую параллель между литературой прошлого и современностью. Любовь Яковлевна учила нас оценивать жизнь на осознании прошлых ошибок и промахов. Она не раз говорила, что литература - это совесть общества, его душа. Многие ее слова звучат для нас как напутствие в будущее. Ее советы стали для многих истинами, потому что основаны не только на ее личном опыте, но и на опыте многих поколений людей. Благодаря урокам литературы мы стали разграничивать добро и зло, строго оценивать свои поступки, учиться проявлять к людям сочувствие, милосердие.

Как-то Г.Титов сказал: "Если человек нашел свое призвание, труд становится для него радостью". Нет сомнения, что Л.Я.Дуденкова не только нашла себя в своей профессии, ей есть и чем гордиться. Среди ее бывших и теперешних учеников - лауреаты и призеры республиканских и областных олимпиад Андрей Воронков, Наталья Чижевская, Вадим Филипович, Ольга и Екатерина Зварико, Алеся Носкова, Анастасия Жихар. Почти полтора десятка человек успешно закончили или учатся на филологических факультетах различных вузов нашей республики.

**Вероника КУЛИКОВСКАЯ,
ученица 11 "Б" класса
средней школы № 1
Дзержинска
Минской области.**



Аня Дубяй скончыла 11 класаў Лабковіцкай сярэдняй школы Крычаўскага раёна. Цяпер яна здае выпускныя экзамены і марыць атрымаць прафесію бухгалтара, а потым вярнуцца ў родныя мясціны дыпламаваным спецыялістам.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

## Назначэнні

**Загадам Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь рэктарам Установы адукацыі "Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт" назначаны**

**ШЫМАЎ Уладзімір Мікалаевіч.**

Уладзімір Мікалаевіч Шымаў нарадзіўся ў 1948 годзе, закончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт імя М.В.Ламаносава, географ-эканаміст.

З 1982 па 1989 гг. працаваў старшым выкладчыкам, дацэнтам кафедры, сакратаром парткама, загадчыкам кафедры, прарэктарам па навуковай рабоце Гомельскага кааператыўнага інстытута. З 1989 па 1995 гг. - намеснік дырэктара па навуковай рабоце НДІ эканомікі Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь. У 1995-1996 гг. - першы намеснік Міністра эканомікі, а з 1996 г. - Міністр эканомікі Рэспублікі Беларусь.

Доктар эканамічных навук.

## Віншуем!

*За значны асабісты ўклад у развіццё айчыннай навукі, шматгадовую плённую навукова-педагагічную дзейнасць Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 чэрвеня 2002 узнагароджаны:*

***ордэнам Францыска Скарыны* ШАМЯТКОЎ Леанід Аляксандравіч**, прафесар кафедры алгебры і геаметрыі Установы адукацыі "Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны", членкарэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі;

***медалём "За працоўныя заслугі"* КЕНЬКО Віктар Міхайлавіч**, прарэктар па навуковай рабоце Установы адукацыі "Гомельскі дзяржаўны тэхнічны універсітэт імя П.В.Сухога".

Прысвоена ганаровае званне ***"Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь"* РАДЗЬКОВУ Аляксандру Міхайлавічу**, рэктару Установы адукацыі "Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А.А.Куляшова", прафесару.

## Запазычанасць - 24 мільярды

***Па стану на 13 чэрвеня запазычанасць па выплаце зарплаты педагогам рэспублікі складала 24 мільярды рублёў. У гэтую суму ўключаны і нявыплачаныя адпускныя.***

Запазычанасць па Гомельскай вобласці складае 6 мільярдаў 45 мільёнаў, з іх 4 мільярды 33 мільёны - зарплата за май і 2 мільярды 12 мільёнаў - адпускныя. На Віцебшчыне педагогам павінны выплаціць 4 мільярды 849 мільёнаў. Сума запазычанасці па Гродзенскай вобласці складае 4 мільярды 354 тысячы рублёў, з іх 2 мільярды 500 мільёнаў - зарплата, па Магілёўскай вобласці - 4 мільярды 237 тысяч рублёў.

Брэсцкія педагогі павінны атрымаць 3 мільярды 349 тысячы рублёў, з іх 2 мільярды 57 мільёнаў - зарплата за май. Запазычанасць па Міншчыне - 1 мільярд 211 мільёнаў рублёў.

А між тым яшчэ не пачалася масавая адпускная кампанія. Хутчэй за ўсё, большасць педагогаў краіны будзе атрымліваць адпускныя памесячна.

Усе даныя атрыманы ў Рэспубліканскім камітэце прафсаюзаў работнікаў адукацыі і навукі.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Рэпартаж у нумар

## Усё тут вершамі гаворыць

***Прыкладна так, бадай, па-філасофску, ды і афарыстычна, разважліва сказала дзяўчынка (няйначай юная паэтэса), калі я разгарнуў блакнот... Мусіць, сінявокая красунька здагадалася, што карэспандэнт задасць ёй пытанне - як пачуваецца ля Нарачы, у славутым аздараўленчым летніку "Зубраня", які іншы раз называюць беларускім "Артэкам". Дзякуй, нарачанская красунька! Ты падказала загаловак карэспандэнцыі.***

Слушнай была і заўвага, што дарослыя (педагогі, важатыя, выхавальнікі) дапаўняць яе выраз фактамі, звесткамі пра дзейнасць "Зубраняці", якое нядаўна да слова "летнік" займела прыстаўку "Нацыянальны".

Так і сталася.

У прыватнасці, дырэктар Віктар Механіч паведаміў, што ў "Зубраняці" аздараўляецца (маецца на ўвазе - у тую змену) 640 дзяўчынак і хлопчыкаў. Яны прадстаўляюць кожную вобласць краіны. І адпачываюць, зразумела, не пасіўна.

Штодзённа заняты справамі, як гэта прадугледжана планамі, распісана літаральна па гадзінах раскладам летніка. Пагутарце з падлеткамі.

Віктар Іванавіч быў прадбачлівым.

Сапраўды, купка падлеткаў ахвотна адклікнулася на размову. Кожны расказаў, адкуль прыехаў. Так, васьмікласнік Саша Малярэвіч - з Барысава (сярэдняя школа № 2), дзевяцікласнік Сяргей Сачок - са Старых Дарог (сярэдняя школа № 2), яго сябрук Максім Зайцаў - з гарадскога пасёлка Шаркаўшчына, Юра Баравік - гамяльчанін (сярэдняя школа № 52).

Хлопчыкі запрасілі на свята. У актавай зале галоўнага корпуса якраз праз хвілін трыццаць павінен быў адбыцца заключны канцэрт VI Рэспубліканскага фестывалю мастацкай творчасці выхаванцаў школ-інтэрнатаў, спецшкол і дзіцячых дамоў "Вясёлкавы карагод".

- Вунь ідуць музыканты.

Паўз нас важна пракрочылі аркестранты (у параднай уніформе вайскоўцаў пазамінулага стагоддзя). Крыху пазней даведаўся, што яны з Пастаўскай школы-інтэрната.

Да арганізацыі фестывалю прычыніліся Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, асабліва дзейсна - упраўленне спецыяльнай адукацыі (начальнік Ала Канаплёва, канкрэтна яго супрацоўнікі Таццяна Кунцэвіч, Валянцін Шух), Нацыянальны цэнтр творчасці дзяцей і моладзі і, вядома, Нацыянальны дзіцячы аздараўленчы летнік "Зубраня".

...Тое, што нашы дзеці таленавітыя, засведчыў канцэрт.

Узорны духавы аркестр з Пастаўскай школы-інтэрната распачаў яго надзіва прыгожым, мілагучным і віхурным хачатуранаўскім "Гапаком" з балета "Гаянэ". А калі загучала мелодыя "Вясёлыя пастаўскія музыкі" - слухацкая зала канчаткова патрапіла ў палон прыгожага.

Кіраўнік аркестра Леанід Косаў ведае справу. А сола на ксілафоне Леанід Уладзіміравіч выканаў віртуозна.

Пастаўчане настроілі слухачоў на хвалю чуйнага ўспрыняцця ўсіх твораў, што выконвалі юныя спевакі і танцоры. Таму і не скупілася зала на апладысменты, воклічы "брава!", узняцце плакатаў са словамі вітання артыстаў.

Уля Бруйло і Аня Крышаловіч, якія вялі канцэрт, адразу праніклісяі прыязным настроем аўдыторыі, узнёсла аб'яўлялі чарговы нумар.

Гала-канцэрт, дый годзе: фестываліць - дык фестываліць!

Алене Машкоўскай і Вользе Чабан са спецшколы № 118 (Мінск) дапамагаў выконваць варыяцыі на тэму народный песні "Чаму ж мне не пець" Дзіма Герашчанка з Васілевіцкай школы-інтэрната. Дадам: вызначыліся выхаванкі з 188-й яшчэ раз: Патрыцыя Курганава і Іра Маліноўская, вакальная група з Васілевіч выканалі песню "Маленькія гномікі" (А.Рэмізоўская, С.Шушкевіч). Яна ўзарвала залу воплескамі.

Ну, а вакальна-харэаграфічная кампазіцыя "Куда уходит детство", у якой былі заняты узорная вакальная група з Клецкага дзіцячага дома, выхаванцы Кобрынскай спецшколы-інтэрната, Гродзенскай спецшколы, ды Волечка Сідарава з Гомеля, кранула як дзяцей, так, прызнаюся, і дарослых: як арыгінальнасцю выканання, так і адмысловымі рэжысёрскімі знаходкамі.

Перапрашаю ўсіх удзельнікаў таго гала-канцэрта, што няма магчымасці назваць прозвішчы юных спевакоў, танцораў (як і выкананыя вамі нумары), але зазначу: вы - таленавітыя.

І няхай Маці-прырода недзе несправядліва абышлася з вамі, ды вы даказалі і даказваеце сваё права - быць упоравень з падлеткамі, якім яна выдзеліла ўдосталь і слыху і зроку... Вы прыгожа малюеце, рукадзельнічаеце.

Намеснік Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Казімір Фарыно (дарэчы, ураджэнец Мядзельшчыны) шчыра вітаў і дзякаваў артыстам за талент.

З Казімірам Сцяпанавічам была салідарнай ва ўсхваляваным выступленні начальнік упраўлення спецыяльнай адукацыі міністэрства Ала Канаплёва. Ала Мікалаеўна шчыра віншавала з поспехам юных артыстаў, рэжысёрска-пастановачную групу Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі (Вольгу Кляцову, Таццяну Пятрушыну, Валянціну Гамбалеўскую, Мікалая Зайцава), усіх, хто меў непасрэднае дачыненне да падрыхтоўкі шыкоўнага "Вясёлкавага карагоду".

- А галоўнае, - зазначыла Ала Мікалаеўна, даўняя прыхільніца і ініцыятар правядзення фестывалю такога кшталту, - явай становіцца мэта - выхаванцы школ-інтэрнатаў, спецшкол і дзіцячых дамоў адчулі сябе паўнапраўнай часткай грамадства. Прынцып "Дзеці - дзецям" спрацоўвае...

**Уладзімір НОВІК.**

## На развітальным экзамене гаварылі аб прыгожым

Прызнацца, я па-добраму пазайздросціла цяперашнім старшакласнікам, якія ў абавязковым парадку вывучаюць курс сусветнай мастацкай культуры (СМК), калі пачула іх адказы на выпускным экзамене па гэтым прадмеце ў сярэдняй школе №1 Дзяржынска. За тры гады яны засвойваюць такі аб'ём матэрыялу, які ўключае звесткі па музыцы, літаратуры, архітэктуры, жывапісу, скульптуры ад антычнасці да нашых дзён, у тым ліку і нацыянальнае мастацтва.

Толькі сем гадоў курс выкладаецца ў сярэдняй школе. Настаўніца СМК Ларыса Васільеўна Гелік - па адукацыі выкладчык выяўленчага мастацтва і чарчэння. На першым часе яна, можна сказаць, вывучала сусветную культуру нароўні са сваімі вучнямі, з самага пачатку.

... Я патрапіла на экзамен ва унікальны 11 "Б" клас. Ён лічыцца эксперыментальным: дзеці вучыліся ў школе толькі дзесяць гадоў, бо пачатковыя класы закончылі за тры гады. Яны на паглыбленым узроўні вывучаюць матэматыку. А сярод 25 выпускнікоў класа - сёння адзінаццаць медалістаў і ніводнага троечніка!

Выпускнікоў гэтага класа можна назваць не толькі разумнымі, але і таленавітымі. Сярод іх, як аказалася, ёсць і спартсмены, і мастакі, і паэты, і добрыя знаўцы замежных моў. Наогул у школе працуе 70 гурткоў.

Развітальны (інакш кажучы, апошні) іспыт па выбары (замест яго можа было здаваць іншы) - экзамен па СМК праходзіў у вельмі дэмакратычнай форме зачытвання рэфератаў. Але такая магчымасць была дадзена толькі выдатнікам па гэтым прадмеце па выніках гадавых адзнак.

Здаваць экзамен пажадала васьмёра вучняў, прычым рашэнне да іх прыйшло не ў апошні момант. Яшчэ паўгода таму ім было прапанавана 50 тэм для рэфератаў. Ведаючы, што значыць падрыхтаваць якасную і цікавую работу (на гэта можа спатрэбіцца некалькі месяцаў), некаторыя ўзяліся за яе адразу ж, як вызначыліся з тэмай. Толькі дзеля напісання рэферата вучні пераварочвалі горы кніг, хадзілі ў тэатры, музеі, слухалі класічныя творы. Хаця асноўны спіс літаратуры, як правіла, складаецца з 3-10 выданняў. А праблема заключаецца ў дрэннай якасці айчынных падручнікаў, у якіх няма храналогіі ў падачы матэрыялу, тэкст зусім не адаптаваны да разумення школьнікаў, няма ілюстрацый да заяўленых тэм. У якасці асноўных кніг выкарыстоўваюцца расійскія падручнікі, хрэстаматыі, якія школа вымушана закупляць, а таксама ўсе рыхтуюцца па расійскіх перыядычных выданнях і, зразумела, па літаратуры з фондаў гарадской бібліятэкі.

...Наташа Забабура расказала аб жыцці і творчасці Марка Шагала. На гэта яе натхніла экскурсія разам з класам у Віцебск, дзе вучні наведалі дом, у якім жыў мастак, а таксама карцінную галерэю Шагала. Добра адчуць і ацаніць работы майстра Наташы дапамагло тое, што яна сама скончыла мастацкую школу. Адзін яе малюнак у рамачцы павесілі нават у кабінеце завуча. Абстракцыянізм характэрны для большасці работ віцебскага мастака. А яго нацюрморты напісаны ў стылі кубізму. Любімай для дзяўчыны стала карціна Шагала "Прагулка". Праўда, у сваёй творчасці Наталля аддае перавагу рэалістычным нацюрмортам.

Цікавай мне падалася тэма кахання і вобраза жанчыны ў мастацтве. Яе закранулі Віка Качарская і Паліна Паўлоўская. Паліна, дарэчы, стала прызёрам рэспубліканскай алімпіяды па нямецкай мове. Дзяўчаты прасачылі гэты вобраз, пачынаючы з часоў праўлення царыцы Неферціці і да сучаснасці. Вялікія таленты свету то ўзвышалі жанчыну, то прыпадабнялі да д'ябальскай сілы, то выяўлялі мадоннай, то цалкам зямной. Але, як адзначыла Віка, тэма кахання ніколі да канца не будзе раскрытай. Прыводзіліся і цытаты з Сапфо, Катула, салодкай паэзіі Гвіда Гвініцэлі і Гвіда Кавальканці, вершаў Дантэ і многіх іншых. А таксама каляровыя рэпрадукцыі мастакоў Бацічэлі, Рафаэля, Леанарда да Вінчы ўзмацнілі ўражанні ад адказаў дзяўчат. Напрыканцы Віка ўзняла праблему жанчыны і вайны на прыкладзе кніг Барыса Васільева "А зоры тут ціхія" і Святланы Алексіевіч "У вайны не жаночы твар". Напісала дзяўчына і яшчэ пра адну загану сучаснасці - страту жаночынай пачуцця ўласнай годнасці.

Хлопцы Дзіма Ліхемовіч і Ваня Тапаркоў выбралі тэмы па сабе - расказалі адпаведна, пра жыццядзейнасць Аляксандра Македонскага і Пятра І - герояў, да якіх яны мараць быць падобнымі хаця б у некаторых якасцях. Гістарычна моцная асоба, правіцель, у першую чаргу, лічаць вучні, павінен клапаціцца пра дабрабыт свайго народа.

Прагучалі работы і па тэмах "Сярэбраны век " у рускай паэзіі; Сурыкаў і Мусаргскі - вялікія людзі XIX стагоддзя; філасофскае асэнсаванне творчасці Урубеля і Блока.

Усе восем выпускнікоў атрымалі свае "выдатна", што і патрабавалася даказаць.

**Надзея СТРАБКОВА.**

## Канец — справе вянец

Дырэктар слуцкай сярэдняй школы №5 Сяргей Мяцельскі ў размове з вашым карэспандэнтам з задавальненнем паведаміў, што выпускнікі на экзаменах упэўнена пацвярджаюць сваімі адзнакамі веды, атрыманыя падчас вучобы.

- Сёння яны здаюць апошні экзамен, - сказаў Сяргей Віктаравіч - спадзяюся, справяцца з ім паспяхова.

Сярод 15 юнакоў-выпускнікоў (якія складалі так званы ваенны клас, гэта значыць рыхтаваліся да паступлення ў Ваенную акадэмію) паспяхова займалася і дзяўчына - Святлана Міхнюк.

Акрамя напружанага працоўнага рытму экзаменацыйнай пары, дырэктарскія будні запоўнены турботамі аб падрыхтоўцы матэрыяльна-тэхнічнай базы (найперш звязаныя з рамонтам) школы да новага навучальнага года.

- Адначасова, - падкрэсліў дырэктар, займаемся падборам вучняў, якія ў верасні прыйдуць у дзесятыя класы.

**Уладзімір НОВІК.**

## Працуе Дзяржаўная камісія

З мэтай забеспячэння роўных магчымасцей грамадзян пры паступленні ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы пачала сваю работу створаная згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 мая 2002г. нумар 275 Дзяржаўная камісія па кантролю за ходам падрыхтоўкі і правядзення ўступных іспытаў у 2002 годзе ва ўстановах адукацыі, што забяспечваюць атрыманне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, якую ўзначаліў Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь А.А.Тозік.

Для своечасовага і аператыўнага рэагавання Дзяржаўнай камісіі на звароты і заявы абітурыентаў, бацькоў, педагогаў і грамадскасці вызначаны наступныя нумары тэлефонаў "гарачай лініі":

У Мінску:

Камітэт дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь - (8-017) 227-04-94;

Дэпартамент кантролю якасці адукацыі Міністэрства адукацыі - (8-017) 231-35-45;

у абласцях камітэты дзяржкантролю:
Брэст - (8-0162) 22-20-13;
Віцебск - (8-0212) 36-28-78;
Гомель - (8-0232) 72-16-53;
Гродна - (8-0152) 72-22-25;
Мінск - (8-017) 220-24-88;
Магілёў - (8-0222) 22-11-55.

**Прэс-група Дзяржаўнай камісіі па кантролю за ходам падрыхтоўкі і правядзення ўступных іспытаў.**

# Наш выпускнік - дзіця разумнае і свавольнае

*Расійская адукацыйная праграма "Школа 2100" працуе на Беларусі параўнальна нядаўна: калі адлічваць з моманту падпісання пагаднення аб супрацоўніцтве - дык толькі два гады. У кожным нашым рэгіёне па 3-5 школ і дашкольных установ спрабуюць укараніць гэтую праграму. Сёлета закончылася апрабацыя падручнікаў праграмы " Школа 2100" у нашых падрыхтоўчых класах. Вынікі парадавалі. Увогуле многіх настаўнікаў праграма прываблівае тым, што мае бесперапынны характар, пачынаецца з дзіцячага садка і захоўвае пераемнасць на працягу ўсіх гадоў навучання дзіцяці ў школе. Яна прапаноўвае прыгожыя і цікавыя падручнікі і працоўныя сшыткі для вучняў, а настаўнікам - добрыя метадычныя дапаможнікі. Таму прыхільнікаў яе становіцца год ад году ўсе больш. Немалаважную ролю ў гэтым яшчэ адыгрывае той факт, што азнаямляльныя і падрыхтоўчыя курсы па праграме для настаўнікаў - бясплатныя. Арганізатарамі іх з нашага боку выступаюць Міністэрства адукацыі, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі, а таксама метадычны цэнтр "Школа 2100 - Беларусь" (кіраўнік Алена Васільеўна Паўлава), які з'яўляецца распаўсюджвальнікам вучэбнай і метадычнай літаратуры па праграме. Дарэчы, дзякуючы ініцыятыўнасці і прадпрымальніцтву гэтай жанчыны, у мінулым настаўніцы, аб праграме "Школа 2100" даведаліся нашыя педагогі.*

*На апошніх падрыхтоўчых курсах, што нядаўна праходзілі ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, прымаў удзел **Аляксандр Аляксандравіч ВАХРУШАЎ,** дацэнт, кандыдат біялагічных навук, які каардынуе праграму на Беларусі. Сёння ён адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.*

**- У назве вашай адукацыйнай праграмы " Школа 2100" ёсць лічба. Што яна азначае?**

- Справа ў тым, што раней мы называліся адукацыйная асацыяцыя " Школ 2000", і калі надышоў гэты год, мы зразумелі, што тыя задачы, якія ставілі перад сабою - выканалі. Аднак і далей рухацца трэба, таму мы стварылі адукацыйную праграму і назвалі яе " Школа 2100", тым самым пазначыўшы новы рубеж. Лічба 2100 азначае, што мы ні ў якім разе не прэтэндуем на тое, каб самім закончыць гэтую праграму, нам абавязкова спатрэбіцца дапамога нашых нашчадкаў.

**- Што асаблівага ў праграме, чым яна прыцягвае настаўнікаў, у тым ліку і беларускіх?**

- Пачатак 90-х гадоў у Расіі - гэта час захаплення ідэяй варыятыўнасці адукацыі. У выніку чаго стварыўся рынак падручнікаў, дзе кожны настаўнік па сваім прадмеце мог выбіраць для сябе вучэбную кнігу. Але ж нашым настаўнікам без падрыхтоўкі гэта рабіць было вельмі складана. Асабліва настаўнікам-пачаткоўцам, бо ў іх прадметаў некалькі, і трэба было спыніцца на такіх падручніках, якія б не супярэчылі адзін аднаму. Самае ж галоўнае, што многія падручнікі не дапасоўваліся паміж сабой. Тады мы выступілі з прапановай аб тым, што павінны існаваць не выбар асобных падручнікаў, а выбар камплектаў падручнікаў. Так з'явіўся камплект " Школа 2100", які грунтаваўся на прынцыпе ўзгаднення вучэбнай літаратуры паміж сабой. Усе падручнікі павінны ствараціцца ў адзіным кірунку, паміж імі захоўваецца пераемнасць. Агульная методыка для ўсіх сфармулявана акадэмікам А.А. Лявонцьевым.

З таго часу мы сталі рэкламаваць ідэю камплектнасці, і, на шчасце, наша Міністэрства адукацыі нас паслухала - і ўжо другі год, як у пачатковай школе рэкамендуецца выкарыстоўваць толькі камплекты падручнікаў, у тым ліку і наш. На сёння працуюць пяць нашых камплектаў, а наступная наша звышзадача - перайсці ад камплектаў падручнікаў да мадэлі школы. Гэта значыць, што мы рыхтуем не толькі падручнікі, але і методыку выхаваўчай работы з дзецьмі і з бацькамі. Уся школа павінна адлюстроўваць наш дух, нашу ідэалогію.

І калі калегі з Беларусі сталі шукаць варыянты для супрацоўніцтва з Расіяй, яны выбралі нас, нашу сістэму. Яна прыкладна мае наступныя асаблівасці. Па-першае, яна накіравана на масавую школу, а па-другое, яна - развіццёвая. Асноўная ідэя ў нас была - вырашыць праблему бесперапыннасці, якая і захоўваецца ў праграме "Школа 2100".

У нас распрацаваны механізм, як пераўтвараць нашу сістэму пад асаблівасці той краіны, якая ёй зацікавіцца. Зараз у вас ствараецца аналагічная праграма пад назвай "Школа 2100 - Беларусь", куды будуць уваходзіць таксама падручнікі беларускія, створаныя беларускімі аўтарамі, пры ўзгадненні з намі. За чатыры гады сумеснай працы з беларусамі мы плануем стварыць праграму "Школа 2100 - Беларусь", другі крок - калі мы пачнем друкаваць падручнікі ў мясцовых выдавецтвах і падрыхтуем настаўнікаў-метадыстаў па праграме. Пасля мы будзем спакойна жыць у сябе, а сістэма на Беларусі будзе развівацца сама па сабе.

**- Вы не ўпершыню выступаеце перад нашымі настаўнікамі. Якія вашы прадказанні - праграма " Школа 2100" атрымае распаўсюджанне на Беларусі?**

- Сёння каля 90 школ і 50 дзіцячых садкоў працуюць па нашай праграме. Вопыт паказвае, што прыхільнікаў становіцца кожны раз усё больш. Зараз мы прыехалі на курсы, і самая вялікая зала АПА не змясціла ўсіх слухачоў. Ёсць свой інтарэс у Расіі да Беларусі, і наадварот. Гэта цудоўна, бо адукацыя адыгрывае вялікую ролю ў вызначэнні будучыні нашых краін.

Мы ўжо тры гады супрацоўнічаем з вамі, але эксперыментальныя пляцоўкі ў школах зацверджаны міністэрствам толькі другі год. Вызначальна, што калі сталі адбірацца школы для апрабацыі нашай праграмы, дык высветлілася, што некаторыя настаўнікі ўжо працавалі па нашых падручніках, праўда, не афішыравалі гэта.

**- А ці шмат часу патрабуецца для таго, каб навучыць настаўніка працаваць па вашай праграме ?**

- На самай справе і так, і не. Напрыклад, сістэма Давыдава патрабуе дакладнай і сур'ёзнай падрыхтоўкі, бо, не давучыўшыся, настаўнік можа прынесці адваротны вынік, таму што там выкарыстоўваюцца свае, арыгінальныя методыкі. Мы ж узялі методыкі, якія ўжо зарэкамендавалі сябе, сабралі перадавы педагагічны вопыт. У прыватнасці, адзін з нашых упадабаных і галоўных метадаў выкладання - праблемны, які ведаюць многія настаўнікі. У гэтым сэнсе навучыць лягчэй, дастаткова нагадаць ужо знаёмае і паказаць, як яно звязваецца адно з адным. Але ж зразумела, што пэўная падрыхтоўка патрэбна.

Мы вучым, як правіла, начыста. Прыкладам, усе дзеці пачынаюць пісаць у косую лінейку, затым пераходзяць на сшыткі, дзе няма лінеек. Вучацца пісаць з падмогай, якую ў іх пасля адымаюць. Трэба адразу вучыць без косых лінеек. Таксама як і тэксты па літаратуры нашыя вучні чытаюць адразу аўтарскія, падабраныя, канешне, пад іх узрост. У нас такі прынцып - цяжка ў вучэнні, затое лёгка ў баі. Мы працуем па прынцыпу "мінімакса": вучняў не прымушаюць ведаць адно абавязкова, а другое па жаданню, ім даецца права самім выбіраць. А настаўнік ужо ведае спосаб зрабіць так, каб яго дзеці ведалі патрэбны мінімум-стандарт.

**- У вас такія прыемныя назвы ў падручнікаў для пачатковай школы - "Мае чароўныя пальчыкі", " У адным шчаслівым дзяцінстве", "Кропелькі сонейка", такія кніжкі і даросламу захочацца пагартаць. Ёсць зусім незвычайны для нас дапаможнік - летні сшытак для будучага другакласніка. Гэта хатняе заданне на канікулы?**

- Так. Справа ў тым, што псіхолагі падлічылі: 40-60 працэнтаў дзяцей за лета забываюць усё, чаму іх навучылі за год. Таму ўзнікла ідэя стварыць сшытак адразу па ўсіх прадметах , дзе б у казачным сюжэце аб'ядноўваліся тэмы па розных прадметах. Дзіця зацікаўліваецца казкай, знаёміцца з ёю, а там, каб дапамагчы яе героям, трэба выконваць пэўныя заданні. А ў канцы сшытка дзіця размалёўвае каляровымі алоўкамі тыя заданні, якія яно выконвала з асаблівым задавальненнем, гэта яго эмацыйная ацэнка.

Назвы ў нашых падручнікаў не проста так сабе, падручнікі ж павінны стаць любімай вучэбнай кніжкай малога. Кожная назва адлюстроўвае тое, чаго мы дамагаемся. Так, на чытанні фарміруецца правільны тып чытальніцкай дзейнасці. Патлумачу, што гэта такое. Наш урок чытання пачынаецца з таго, што вучні чытаюць загаловак апавядання, які павінны гаварыць сам за сябе, глядзяць на малюнак побач, а затым настаўнік пытае: "Дзеці, як вы мяркуеце, аб чым гэтае апавяданне?" Разам абмяркоўваюць - што можа хавацца за такой назвай, выказваюць свае здагадкі, а пасля самі сабе, не ўголас, чытаюць тэкст. Вось вам і матывацыя, калі дзіця гарыць жаданнем даведацца і пацвердзіць сваю здагадку. Мы вучым дзяцей чытаць моўчкі. Некаторыя настаўнікі выхваляюцца, што іх выхаванцы чытаюць з хуткасцю 120 слоў за хвіліну. А на НТБ , напрыклад, дыктара, які чытае больш, чым 90 слоў у хвіліну, звальняюць з працы. Пасля маўклівага чытання ідуць прапрацоўка і аналіз тэксту, калі настаўнік задае пытанні, адказы на якія дзеці шукаюць у змесце апавядання. І ўжо напрыканцы, ведаючы, што гэта за апавяданне вучні чытаюць яго ўголас. Назвы нашых падручнікаў якраз і зыходзяць з прынцыпу правільнай чытальніцкай дзейнасці.

Як аўтар падручніка "Ахопліваючы свет", магу расказаць пра гэты падручнік. У яго (для падрыхтоўчага і першага класаў) закладзены энцыклапедыі, каб вучань на многія пытанні мог знайсці адказы на старонках сваёй вучэбнай кніжкі. Падручнік таксама вучыць карыстацца картай, дзесьці на працягу трох гадоў мы знаёмімся з картай, і гэта складаная навука. У падручніку шмат казачных сюжэтаў. Увогуле, кожная наша вучэбная кніжка мае сваіх герояў, якія выступаюць пасрэднікамі паміж аўтарамі і дзецьмі. Героі падручніка "Ахопліваючы свет" - мае родныя дзеці, і калі я прыходжу ў школу, вучні ў мяне пытаюцца, ці сапраўды гэта мае дзеці, і просяць паказаць фотаздымак.

Для нас вялікую ролю адыгрывае матывацыя ў дзіцяці да вучобы, таму мы імкнемся рабіць усё, каб нашыя падручнікі былі цікавымі. І яны, напэўна, і ёсць такія, бо даводзілася чуць ад настаўнікаў пытанні, накшталт: " Што рабіць, калі пачынаеш вывучаць новую частку падручніка, а атрымліваецца, што дзеці там усе заданні ўжо выканалі?" І правільна. З нашым падручнікам дзеці займаюцца з ахвотай.

А яшчэ ў нас ёсць два прадметы, незвычайныя для пачатковай школы. Рыторыка, якую мы вельмі любім і разумеем пад ёй, не столькі ўменне прыгожа гаварыць, колькі майстэрства ладзіць стасункі. У восьмым класе, напрыклад, вучні вучацца прамаўляць тосты, а ў другім - далікатна адмаўляць. Гэты ўрок вельмі часта робяць адкрытым, паколькі большасць дарослых не ўмее як след адмаўляць прасячаму.

Другі прадмет - інфарматыка. У малых яна - бескамп'ютэрная. Мы прыхільнікі таго, што камп'ютэр трэба ўводзіць недзе з 4 класа. Інфарматыка ў пачатковай школе вучыць - як правільна размаўляць з машынай, пакуль толькі вусна, правільна прапрацоўваць атрыманую інфармацыю. Інфарматыка вырошчвае аналітыкаў.

**- Гэта ж нецікава, напэўна, без камп'ютэра?**

- Яшчэ як цікава, калі належным чынам арганізаваць работу! Напрыклад, калі дзеці адкрываюць нейкае правіла па рускай мове, яны адразу прапаноўваюць, як яго можна паказаць у выглядзе алгарытму. Інфарматыка вучыць працаваць з інфармацыяй на любым з прадметаў. Настаўнікі адзначаюць, што менавіта інфарматыка дапамагае з рускай мовай. Калі ж вы лічыце, што патрэбны камп'ютэр, дык ён ёсць. Мы не забараняем.

**- Для дзяцей вы пастараліся і зрабілі такія цудоўныя падручнікі ды працоўныя сшыткі, а як для настаўнікаў?**

- Настаўніка мы таксама імкнуліся забяспечыць усім неабходным, каб ён не марнаваў час на пошук патрэбнай літаратуры. Да кожнага прадмета складзены метадычныя дапаможнікі, дзе распісаны дакладна кожны ўрок. Такія, як - вусныя практыкаванні да ўрокаў матэматыкі, словы з неправяраемымі напісаннямі і г. д.

**- Праграма "Школа 2100" прапаноўвае нешта новае па кантролю за якасцю ведаў?**

- Ідэя першая - гэта ўвядзенне электроннага пашпарта. У нас, у Расіі, зараз модны адзіны дзяржаўны экзамен, дзе незалежная камісія правярае выніковую работу вучня пасля заканчэння школы. Уявіце сабе, што чалавек усё жыццё займаўся добра, а тут нешта здарылася, і - дрэнная адзнака на адзіным дзяржаўным экзамене. Каб падстрахавацца, мы прыдумалі паняцце электроннага пашпарта. Напрыканцы вучэбнага года дзеці выконваюць праверачную работу, якая павінна ацэньвацца па розных параметрах адносна ўзроўню Расіі, у вас - Беларусі. Для пачатковай школы па асноўных прадметах такая сістэма праверачных работ ужо зроблена, ідзе распрацоўка па асноўнай школе. Гэта дазваляе мець дакументальнае пацверджанне перад адзіным экзаменам на выпадак, калі чалавек спатыкнецца падчас экзамену. Магчымасці ўсе ёсць, каб рабіць такі электронны пашпарт для кожнага вучня.

Другая ідэя заключаецца ў тым, каб падзяліць працэс атрымання новых ведаў і кантролю. Справа ў тым, што нашай методыкай прадугледжана, каб вучні самі адкрывалі новыя веды ці суадкрывалі іх разам з настаўнікам. Дык вось, у гэты момант нельга весці кантроль за якасцю ведаў.

**- У сваіх адказах вы ўвесь час выкарыстоўваеце займеннік "мы". Гэта значыць, што над праграмай працуе вялікая каманда?**

- Нас зараз недзе 104, а заснавальнікаў было толькі чалавек 10. Усе канцэпцыі і ідэі па праграме " Школа 2100" належаць акадэміку А.А. Лявонцьеву. Ён вучоны з сусветным імем, абараніў дзве доктарскія, стварыў такую навуку як псіхалінгвістыка. Аляксей Аляксеевіч - вельмі рознабаковы чалавек. Цікава, што калі мы атрымалі партрэт выпускніка нашай школы, то ён атрымаўся падобным да Лявонцьева. Гэта спалучэнне разумнага і свавольнага ( які ведае маральныя межы) дзіцяці.

Мы вынайшлі паняцце адзінага калектыву. Вось, напрыклад, прадмет " Ахопліваючы свет" , які я прадстаўляю, уваходзіць у прыродазнаўча-навуковы накірунак. Калі ў пачатковай школе я - галоўны спецыяліст, дык у дашкольнікаў і асноўнай школе - іншыя мае калегі, але я прысутнічаю ва ўсіх аўтарскіх калектывах па гэтаму прадмету для розных класаў. Мой абавязак - сачыць за тым, каб захоўвалася пераемнасць на працягу ўсіх гадоў вывучэння прадмета. У нас кожны заняты сваёй справай, але працуем мы ў адзінстве.

**- Дзякуй за размову. І да новых сустрэч.**

**Святлана КІРСАНАВА.**

Таццяна Анатольеўна Чорная выкладае англійскую і французскую мовы ў Віцебскай сярэдняй школе №10. Яе любяць вучні і паважаюць калегі. Сапраўдны прафесіянал, педагог па прызванню, яна здолела захапіць сваёй прафесіяй многіх вучняў - яны таксама захацелі сталі настаўнікамі.

НА ЗДЫМКУ: Таццяна Анатольеўна Чорная са сваімі выхаванцамі.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

# Настаўнікі выбіраюць іншую матэматыку

***Звыш трох тысяч вучняў пачатковых класаў больш чым у 30 гарадскіх і 40 сельскіх школ нашай краіны сёння асвойваюць матэматыку не па класічнай методыцы, заснаванай на кольказнай канцэпцыі ліку і арыфметычных дзеянняў. Тыя, хто займаецца па эксперыментальнай мадэлі Ходавай, праходзяць за чатыры гады так званы курс арыфметыкі лікаў-аператараў, у аснове якога - працоўныя працэсы пераўтварэння матэрыяльных аб'ектаў.***

Новы падыход (хаця распаўсюджвацца ён пачаў з 1989 года) можа падацца складаным толькі з першага погляду, калі зазірнуць, напрыклад, у спецыяльныя вучэбныя і метадычныя дапаможнікі, дзе інфармацыя выкладаецца на асаблівай матэматычнай мове з нетрадыцыйнымі заданнямі і малюнкамі, з тэкстамі казак.

Тым не менш курс набывае ўсё больш прыхільнікаў. Часцей за ўсё настаўнікі даведваюцца аб яго існаванні падчас семінараў, адкрытых урокаў, праз асабістыя знаёмствы.

Чым жа матэматыка Ходавай захапляе педагогаў і, самае галоўнае, дзяцей? Знаёмства з аўтарам мадэлі, загадчыцай сектара матэматычнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі (НІА) Адай Адамаўнай Ходавай, дапамагло адказаць на гэтае пытанне. Яе падрабязны расказ пераканаў у своечасовасці паяўлення аператарнага падыходу.

Адсутнасць паўнацэннай гульневай дзейнасці ў дашкалят (а ў малодшых школьнікаў - недахоп матывацыі да вучобы) - пакуль яшчэ даволі распаўсюджаная з'ява. На жаль, нічым іншым у больш дарослым узросце выправіць падобную непрадуманасць нельга. Можна толькі ў пэўнай ступені кампенсаваць яе. За гэта ў свой час і ўзялася мая сённяшняя суразмоўца.

Цэнтральным вобразам у падрыхтоўчым класе, па задумцы Ады Адамаўны, стала машына-аператар (адлюстроўваецца ў выглядзе прамавугольніка), якая ва ўяўленні дзяцей здольная змяняць прадметы. Калі ў верхняй частцы прамавугольніка знаходзіцца, напрыклад, чырвоны кружок ("кнопка") — знак машыны, дык такая машына перафарбоўвае прадмет у чырвоны колер. Машына з іншым знакам можа зменшыць або павялічыць першапачатковы памер прадмета і г.д.

Натуральныя аператары - машыны са знакамі 1,2,3... - у адным выпадку выдаюць прадмет ( ці прадметы) адзін раз, у другім - двойчы, у трэцім - тройчы і г.д. Аналагічна засвойваюцца астатнія лікі да 10. Такі падыход дапамагае засвоіць лічэнне групамі пры ўвядзенні лікаў 20, 30, ... , 100 (2 разы па 10 прадметаў; 3 разы па 10 і г.д.). Прычым дзеці рана пачынаюць здагадвацца аб аперацыі множання. Асаблівую цікавасць выклікае аператар паглынання 0, бо ён нічога не выдае.

Здаецца, навошта так ускладняць вывучэнне самага элементарнага ў матэматыцы? Традыцыйная методыка, канешне, больш звыклая, цалкам склалася, але гэта не значыць, што і яна не патрабуе ўдасканалення, як і ўсё ў нашым жыцці. Пры захаванні стандартаў у навыках вылічэнняў сёння ў пачатковай школе неабходна, ды і магчыма, даваць дзецям больш. Як адзначыла Ада Адамаўна, малодшых школьнікаў звычайна цікавяць не столькі адказы на прапанаваныя заданні, колькі сам працэс складання ці адымання, множання ці дзялення. Яны прывыклі задаваць пытанне "чаму?" - чаму адбываецца так, а не інакш? Па мадэлі Ходавай, вучні самі на яго адказваюць, бо самі ў працэсе зымітаванай гульні з машынамі прыходзяць да асэнсавання ўласцівасцей арыфметычных дзеянняў, канстатуюць іх, адчуваюць праз самастойна прапрацаваную аперацыю з матэрыяльнымі аб'ектамі. Адным словам, увесь першы год яны развіваюць так званае "ручное" мысленне.

Вялікую ролю ў змесце курса арыфметыкі адыгрывае яшчэ адно паняцце - кампазіцыя аператараў, якое таксама ўводзіцца ў пачатку першага года навучання з тым, каб дзеці маглі ўяўляць сутнасць паслядоўнага дзеяння дзвюх (і болей) машын. Першая, напрыклад, налівае ў бутэлькі малако, за ёю другая закрывае бутэлькі накрыўкамі; першая надзявае ляльцы панчохі, другая абувае чаравічкі і г. д. Вучні ўжо з гумарам успрымаюць прапанову памяняць машыны месцамі. У ходзе практычных заняткаў шасцігодкі самі выяўляюць падобныя кампазіцыі, толькі ўжо ў працэсе дзеянняў з лікамі.

Дзякуючы спецыяльнай гульні "Кладаўшчык", дзеці ўжо да пачатку вывучэння тэмы "Сума і складаемыя" добра разумеюць сэнс запісу "3 яблыкі + 2 яблыкі". Вельмі хутка ім становіцца даступнай аперацыя вынясення за дужкі, знаходжання кратных адносін, а таксама тоеснасць абазначэнняў велічынь - вынікаў лічэння або вымярэння. Напрыклад, (3 елачкі) х 5 = (3 х 5) елачак. Яны ўмеюць запісваць вынікі дзеянняў аператараў рознымі спосабамі, г.зн. выконваць пераўтварэнні арыфметычных выразаў, а ў алгебры аперацыі над літарнымі выразамі такія ж, як і над лікавымі. Вынясенне (унясенне) агульнага множніка за (у) дужкі абапіраецца на размеркавальную ўласцівасць памнажэння сумы на лік ці ліку на суму.

Пры асваенні лікаў у межах 1000 (трэці год) дзеці практычна самастойна могуць абгрунтаваць прыкметы дзялімасці трохзначных лікаў на 3, на 4, і на 5.

З'явілася магчымасць пазнаёміцца з арыфметыкай рацыянальных лікаў. Даведацца пра дзесятковыя дробы можна пры вывучэнні мнагазначных лікаў на чацвёртым годзе навучання, а звесткі аб адмоўных і дадатных ліках уводзяцца ў тэме "Вектары на прамой. Аператар змены напрамку". Квадрат і куб ліку прапануюцца як здабытак двух (трох) аднолькавых множнікаў. Такая прапедэўтыка запаўняе значны прабел у пераемнасці навучання матэматыцы пры пераходзе да сярэдняй ступені школы.

Пры выкарыстанні аператарнай канцэпцыі ліку значна эканоміцца вучэбны час. Амаль трэць апошняга (у пачатковай школе) года вызваляецца для практыкуму па рашэнню задач і вылічэнняў на павышаным узроўні. Па Ходавай, як адзначаюць настаўнікі і дзеці, вучыцца нясумна і лёгка, бо ў аснове яе матэматыкі ляжыць не шматкратнае паўтарэнне аднатыпных практыкаванняў, а фарміраванне крытычнага мыслення, вяртанне да аднаго і таго ж паняцця некалькі разоў, але ўжо на новым узроўні. Дзеці вучацца не са слоў, а за кожным сімвалам бачаць сваю працу. Ім асабліва падабаюцца вялікія сшыткі, якія ім набываюць бацькі для заняткаў па курсу арыфметыкі, у якіх яны могуць творча працаваць і нават размалёўваць карцінкі.

З лабараторыяй навучання матэматыцы НІА сябруюць і звяртаюцца туды па кансультацыю настаўнікі школ Мінска, Магілёва, Салігорска, Барысаўскага і Слуцкага раёнаў Мінскай вобласці, Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці і іншых - тых, дзе праводзіцца эксперымент.

Як правіла, выпускнікі пачатковай школы, якія прайшлі гэты курс, лёгка адаптуюцца ў сярэдніх і старшых класах і ў большасці сваёй займаюцца без троек, становяцца пераможцамі матэматычных алімпіяд, а іх настаўнікі перамагаюць на сваіх прафесійных конкурсах. Некаторыя бацькі пішуць дырэктарам школ заявы, каб іх дзяцей перавялі ў клас, дзе займаюцца па мадэлі Ходавай. Некалькі такіх пісьмовых просьб, а таксама водгукі вучняў Ада Адамаўна захоўвае.

У бягучым годзе адзін з пятых класаў, які выпусціла настаўніца пачатковых класаў Людміла Фёдараўна Самухіна ў Вучэбным комплексе гімназія-каледж № 26 Мінска, заняў першае месца па паспяховасці.

Трэцякласнікі 22 мінскай школы ўжо двойчы прымалі ўдзел у міжнародным матэматычным конкурсе "Кенгуру", і два вучні сталі пераможцамі - занялі другія месцы ў рэспубліцы. Іх падрыхтавалі настаўніцы Наталля Мікалаеўна Лапо і Святлана Браніславаўна Кужаль.

У сталічнай гімназіі №1 імя Ф.Скарыны, дзе ўжо адзінаццаты год выкладае матэматыку па новай мадэлі Ірына Іванаўна Зубчонак, у яе былых вучняў -- цяперашніх старшакласнікаў, якасць ведаў дасягае 90-95%. Нездарма на апошняй ступені навучання гэтыя школьнікі выбіраюць тыя профілі, дзе матэматыка выкладаецца на павышаным узроўні. А пра паспяховую работу настаўніцы гэтай жа гімназіі Кацярыны Пятроўны Свірыдовіч наша газета нядаўна пісала.

Напрыканцы нашай размовы Ада Адамаўна падкрэсліла, што эксперыментальныя вучэбна-метадычныя комплексы з'яўляюцца вынікам калектыўнай працы навуковых супрацоўнікаў і аспірантаў НІА - Алены Міхайлаўны Грыневіч, Зінаіды Міхайлаўны Барысевіч, Надзеі Віталеўны Далінскай, а таксама настаўніцы смалявіцкай сярэдняй школы № 1 Любові Аляксандраўны Кучынскай. Вялікую дапамогу ў правядзенні гэтага даследавання аказваюць кіраўнікі інстытута і ўсе службы, што маюць дачыненне да падрыхтоўкі і выпуску адпаведных выданняў. Ад усяго сэрца хочацца падзякаваць ім і ўсім настаўнікам за супрацоўніцтва і падтрымку ў навуковым пошуку, пажадаць усім поспехаў і здзяйснення самых смелых спадзяванняў.

**Надзея СТРАБКОВА.**

# Каму патрэбны хатнія заданні?

***Апошнім часам адукацыя набывае асобасна арыентаваны гуманістычны характар. Мы клапоцімся не толькі пра тое, колькі ведае вучань, але і пра тое, ці камфортна яму ў школе і ці дапамогуць яму веды, атрыманыя за гады вучобы, знайсці сябе ў жыцці. Як вынік гэтага - пастаянны пошук эфектыўных і адначасова здароўе- і псіхазберагальных форм і метадаў навучання.***

Урок - гэта складаная, цэласная сістэма, і ад таго, як уздзейнічаюць і ўзаемазвязаны ўсе яе элементы, залежыць якасць навучання. Не апошняе месца ў гэтай сістэме займае работа з дамашнім заданнем (задаванне, праверка). Разумна спланаванае, цікавае, творчае заданне, якое ўлічвае індывідуальныя здольнасці кожнага, можа стаць залогам развіцця асобы вучня.

Дамашняе заданне - праблема, да абмеркавання якой у нашай гімназіі звяртаюцца пастаянна. Абумоўлена гэта наступнымі прычынамі: агульная нагрузка, тым больш у гімназіі, вялікая (базавая праграма плюс даследчая работа вучняў), педагагічны калектыў знаходзіцца ў пастаянным пошуку, у тым ліку і аптымальных суадносін аб'ёму ўрочнай і дамашняй работы, новых форм хатняга задання.

Даследуючы гэтую праблему, мы ўспомнілі класічны эпізод з кнігі Марка Твэна. Том Сойер, атрымаўшы заданне пафарбаваць агароджу, знаходзіць даволі арыгінальнае рашэнне: работу могуць выканаць іншыя, трэба толькі зацікавіць іх гэтай справай, пераканаць, што больш захапляльнага занятку няма і не можа быць. Усе памятаюць, з якім азартам і натхненнем працавалі хлапчукі. Значыць, на першае месца мы павінны паставіць матываванасць дзеянняў, цікавасць як да самога працэсу выканання дамашняга задання, так і да яго вынікаў. Праблемныя сітуацыі, даследаванні, доследы, падарожжы ў часе і прасторы, уваходжанне ў ролю экскурсавода, урача, археолага і г.д. - такія віды дамашняга задання прапануюць настаўнікі гімназіі вучням.

Дзеці павінны ведаць, навошта яны выконваюць тое або іншае заданне, ці спатрэбяцца гэтыя заданні на іншых уроках. Таму задача настаўніка - сфарміраваць у вучняў разуменне сувязі дамашняй работы з вынікамі навучання ўвогуле і, вядома, выкарыстоўваць вынікі работы над хатнім заданнем для таго, каб зрабіць урок больш змястоўным, эфектыўным і цікавым.

Цудоўна, калі вашы вучні маюць магчымасць выбраць "сваё" дамашняе заданне з улікам асабістых інтарэсаў, індывідуальных асаблівасцей, проста настрою, урэшце.

Між іншым, не апошнюю ролю дамашняе заданне адыгрывае ў фарміраванні характару і асобы вучня. Дайце магчымасць вучням добраахвотна, а не па прымусу выконваць хатняе заданне, абавязкова выслухайце, не забудзьце пахваліць, адным словам, стварыце сітуацыю поспеху - і вы ўбачыце, з якім энтузіязмам дзеці будуць вывучаць ваш прадмет.

Многія бацькі ўздыхнуць, пачуўшы словы папулярнай песенькі: "Нагружать все больше нас стали почему-то...". Але большасць з іх (85-95 працэнтаў) упэўнена ў тым, што без дамашняга задання не абысціся, бо гэты від работы прадугледжвае замацаванне вучэбнага матэрыялу, адпрацоўку ўменняў і навыкаў.

"Ну, гэта бацькі, - скажаце вы, - яны забылі, як самі былі дзецьмі". Але ж і многія вучні лічаць, што без хатняга задання не абысціся. І тут жа раяць даваць творчыя заданні, прапаноўваць выбар заданняў.

Дарэчы, многае ў аптымізацыі дамашняга задання залежыць ад адміністрацыі. Па-першае, трэба скласці добры расклад, у якім урокі расстаўлены папарна. Гэта ў нейкай ступені змяншае перагрузку вучняў, бо самая простая арыфметыка пераканаўча паказвае: тры дамашнія заданні падрыхтаваць прасцей, чым сем або шэсць. Па-другое, важна, каб у школе працаваў калектыў аднадумцаў, дзе кожны ведае, якія заданні дае вучням, напрыклад, фізік або матэматык і колькі часу спатрэбіцца на яго выкананне, і адпаведна, па магчымасці, карэкціруе сваё дамашняе заданне. Па-трэцяе, адладжаная сістэма метадычнай вучобы, дзе ўдзяляецца ўвага планаванню, відам і спосабам уключэння ў ход урока хатняга задання. Яно павінна быць цікавым, развіццёвым і арыентаваным на магчымасці і здольнасці кожнага канкрэтнага вучня. Яно не павінна быць ні цяжкай павіннасцю, ні спосабам заняць дзяцей у пазаўрочны час, а самастойнай працай над развіццём талентаў і здольнасцей асобы.

Праблема ж перагрузкі знікне сама сабой, бо калі ты заняты цікавай і карыснай справай, час ляціць непрыкметна, а цяжкасці толькі ўзмацняюць азарт і выклікаюць пачуццё гонару за сябе, калі бачыш вынікі працы.

**Інеса БОНДАР,**
**намеснік дырэктара**
**па вучэбна-метадычнай рабоце**
**Мінскай педагагічнай гімназіі №3.**

